 


# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

№ 8 (573) ГОД XII 19 ЛЮТАГА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


**У НУМАРЫ У НУМАРЫ**



# БГКТ

## ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКІХ ФІЛЬМАЎ

24.І. г.г. у Доме савецкай культуры ў Варшаве адбыўся Фестываль беларускіх фільмаў, сарганізаваны членам і сімпатыкам Варшаўскага аддзела БГКТ. Перад кінафестывалем выступіў сакратар Варшаўскага аддзела БГКТ Віктар Швед, які ў кароткім дакладзе прадставіў гісторыю маладога беларускага нацыянальнага кінамастацтва.

Першым беларускім мастацкім фільмам была карціна «Лясная быль» з 1926 г. таленавітага рэжысёра Ю. Тарыча на падставе аповесці М. Чарота «Свінапас». Фільм паказвае бурны рост вызваленчых сіл беларускага народа, які ўзняўся на барацьбу з акупантамі ў 1920 годзе.

«Двойчы народжаны» — гэта першы гукавы беларускі фільм прысвечаны жыццю калгаснай вёскі, рэалізаваны рэж. Э. Аршанскім у 1934 г. паводле сцэнарыя Р. Кобец.

Значных дасягненняў дабілася беларуская кінематаграфія ў пасляваенны перыяд, асабліва пасля XX з'езда КПСС.

Цікавы маладзёжны фільм «Дзяўчынка шукае бацьку», які прадстаўляе эпізод партызанскай барацьбы з гітлераўскімі захопнікамі (сцэн. К. Губарэвіч і Я. Рыс, рэж. Л. Голуб, 1959 г.), як і псіхалагічны фільм «Наперадзе круты паварот» (сцэн. А. Маўзон, рэж. Віктараў, 1960 г.) дэманстраваліся ў польскім тэлебачанні.

Паважным дасягненнем беларускай кінематаграфіі з'яўляецца каляровы фільм «Чырвонае лісце» (сцэн. А. Куляшоў і А. Кучар, рэж. У. Корш-Саблін, 1958 г.). Фільм расказвае аб барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Найбольш уданы фільм гэта — «Гадзіннік спыніўся апоўначы», рэалізаваны ў 1959 г. рэж. М. Фігурскім паводле свайго сцэнарыя. У аснову фільма былі пакладзены падзеі, якія адбыліся ў Мінску ў 1942 г., знішчэнне гітлераўскага гаўляйтара Кубэ. Гэтыя два апошнія фільмы з вялікім поспехам дэманструюцца Беларускім Таварыствам на Беласточчыне.

На кінафестывалі ў Доме савецкай культуры дэманстраваліся тры беларускія фільмы апошніх гадоў. Маладзёжны каляровы фільм «Вуліца малодшага сына» (сцэн. Л. Касіль і М. Паляноўскі, рэж. Л. Голуб, 1962 г.). Галоўнымі героямі фільма з'яўляюцца дзеці, якія змагаюцца з гітлераўскімі захопнікамі.

«Трэцяя ракета» — гэта чарговы фільм кінафестывалю, рэалізаваны ў 1963 г. рэж. Р. Віктаравым на аснове вядомай аповесці таленавітага маладога беларускага празаіка В. Быкава пад аднаіменным загалоўкам.

Замыкаў кінафестываль фільм «Масква — Генуя» (сцэн. А. Спешнёва, рэж. У. Корш-Саблін і П. Арманд, 1964). Гэты таленавіта зроблены фільм расказвае аб цяжкай працы савецкай дыпламатыі ў першыя гады пасля Кастрычніка.

Беларускае таварыства і з гэтымі фільмамі павінна шырэй пазнаёміць насельніцтва Беласточчыны.

**Віктар Швед**

# ЛАБІРЫНТ ІНВЕСТЫЦЫІ

Колькі разоў бяру ручку, каб пісаць аб інвестыцыях, рука ўздрыгваецца, а розум падказвае, што гэта так усё ялове. Зразумела, перасольвае і рука, і розум. Проста з той прычыны, што гаварыць, гаварыць дрэнна аб нашым будаўніцтве людзі неяк прызвычаіліся. Гэтае прызвычаенне якраз і з'яўляецца дрэннай адзнакай таму, што, каб штосьці палепшыць, неабходна шукаць прычын кепскага, дарог паляпшэння.

На сустрэчы ў вёсцы Нурэц, Сямяціцкага павета, мае субяседнікі рабілі закід, што вельмі мала прыдзяляецца грошай на інвестыцыі ў іх павеце, гміне і т. д. Другі з прысутных гаварыў аб тым, што замала плацяць у будаўніцтве і т.д. Напэўна, павярхоўна беручы, мелі рацыю мае субяседнікі. Напэўна інвестыцыйны план Познанскага ваяводства ў два разы большы, чым Беластоцкага. Але...

### ЛІМІТЫ

Ліміты — гэта новае эканамічнае паняцце, спрашчаючы — гэта грошы, якія прыдзяляюцца на даную інвестыцыю. Зараз Беластоцкае ваяводства атрымоўвае толькі грошай, што не ў сілах іх «перарабіць» на новыя дамы, школы, прадпрыемствы, святліцы і т.п. Дзеля гэтага Беластоцкае ваяводства мусіла зрэзігнаваць, напрыклад, са 100 мільёнаў злотых прызначаных дзяржавай толькі на сельскагаспадарчыя інвестыцыі. І рацыя, бо на што ж прымаць грошы, калі іх не выкарыстоўваюць. Дрэнна сітуацыя выглядае і ў паасобных паветах. Напрыклад, у Бельскім павеце ліміт выносіў 67.697 тыс. на 1966 г., а за 9 месяцаў гэтага ж года выканана толькі 51,3%.

Прычыны гэтага трэба шукаць у многіх справах. Усеагульнай для Беластоцкага ваяводства ёсць недастаткова ўзрастаючая моц, якая мае перарабіць прыдзеленыя грошы. Напрыклад у будаўніцтве не хапае ў ваяводстве 1.200 людзей да працы. Будаўляныя матэрыялы — гэта другая істотная прычына. Калі няма з чаго і няма каму, дык ніхто не пабудуе. Але ёсць і іншыя суб'ектыўныя прычыны, якія залежаць ад кіраўнікоў будаўляных прадпрыемстваў, паасобных будоў, брыгадзіраў, майстроў, рабочых калектываў. І зноў прывядзем прыклад. Філіялу ПОМ у Браньску вызначалася аж тры тэрміны на адданне ва ўжыткаванне філіялу ПОМ у Браньску.

Нельга не адзначыць, што дрэнны ўплыў на рэалізацыю плана інвестыцыі мелі змены ў планах. Напрыклад, у Бельскім павеце скрэслена: пабудову фабрыкі хімічнай апаратуры, баню, кіно ў Боцьках, некалькі школ і іншыя, а ўведзена такія як: электрыфікацыю большай колькасці вёсак, агранамоўкі, Філіі ПОМ, цэнтры здароўя, парашкоўня малака і інш. Раўнавага лімітаваных сродкаў была захавана, але сам факт кепска адбіўся на выканаўстве. Ёсць урэшце суперцяжкасці ў рыхтаванні тэхнічнай дакументацыі напр. у Бельску на базу для ПЗГС і школу № 3, справы падрыхтоўкі дакументацыі і афармленне іншых спраў перайшло на трэцюю пяцігодку.

### ШТО РАБІЦЬ?

Ваяводскія ўлады рашыліся на крок, можа і балючы, але толькі ён дае адзіны выхад. Існуючую «моц» скіраваць для выкарыстання пры разбудове пра-

(Працяг на стар. 4)

*Новыя вершы*

# ЗУБР

Агромністы кашлаты буры звер, як бор.
У сны мае з'яўляецца штоноч.
Не зводзіць ён з мяне гарачых воч,
Рыкае,
кліча ў пушчу за сабой.
«Рашыся!
У шацёр мой прыбяжы.
Галоўку мне на морду палажы,
і што душа захоча, прыкажы:
Рагамі цэлы свет зграбу табе,
Усё жыццё вазіцьму на гарбе...
Не прыбяжыш?
Я заўтра зноў прыйду.
Скручу і на вяроўцы прывяду.
І кару чалавечую табе прыдумаю:
Жыўцом,
па костачцы,
па жылцы,
схрумаю».
Пужае.
Просіць.
Спакушае.
Мучыць.
І вабіць, вабіць у гушчар дрымучы,
У непрахадзь, у нетры — бураломы,
Штоноч — далей,
Штоноч — далей ад дому,
Па сцежках, чалавеку невядомых.
Што ж мне рабіць?
За галаву бяруся.
Урэшце я змагацца замаруся.
Скаруся!
Бягу да сябра.
«Падкажы, парай,
Як мне пазбавіцца таго зубра»?
Ды сябра мой зларадасна смяецца:
«Такой парады для цябе няма.
Як хочаш, так выкручвайся сама
З няверным утрапёным сэрцам».
— О, барадач неўтаймаваны мой!
У пушчы надта холадна зімой.
Я ж бедны птах. Ты зразумей, мой любы,
Няма ў мяне такой раскошнай шубы.
Куды ж ты павядзеш мяне?
А ён, пануры, толькі бровы хмурыць:
На згубу?
«Маіх лясоў перахтупі мяжу:
Я сам з свайго гарба злуплю тры скуры —
І гэткі спраўлю для цябе кажух!»...
І залатыя горы мне прарочыць.
І зноў знікае на сыходзе ночы.
А ў галаве, як у млыне ўсё роўна —
Такая кудаса, такі суцэльны гул.
Здаецца, рана ўстану я зуброўнай —
І напраскі, па гурбах, па снягу
За ім у Белавежу пабягу.

**Данута Бічэль-Загнетава**





ВЯРТАННЕ. ФОТАЭЦЮД УЛАДЗІМІРА ПАЎЛЮЧУКА.

 

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

## НАРАДА МІНІСТРАЎ

Адной з найбольш цікавых спраў, якой займалася сусветная прэса, была **нарада міністраў замежных спраў краін удзельніц Варшаўскага Дагавору ў Варшаве.** На тэму нарады многія заходнія каментатары пісалі, але гэта былі толькі здагадкі, таму што аб ходзе нарады журналістаў не інфармавана. Нарада была прысвечана справам еўрапейскай бяспекі і ў тым ліку аналізу ўрада ФРГ, які пасля падпісання дыпламатычных сувязей з Румыніяй пачаў на ўсе бакі «раструбліваць» свой зварот у т.зв. усходняй палітыцы, адначасова пацвярджаючы старыя жаданні як: выключнае права да рэпрэзентацыі ўсяе Германіі (непрызнанне ГДР), непрызнанне ўсходніх граніц Польшчы і прэтэнзіі да доступу да тэрмаядзернай зброі.

На заканчэнне нарады Ул. Гамулка прыняў удзельнікаў у Цэнтральным Камітэце ПАРП. Былі гэта міністры замежных спраў: Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, віцэ-міністр Румыніі, Чэхаславакіі і СССР. Міністр замежных спраў Румыніі ў той час прабываў у Бельгіі.

## ВІЗІТ У ВЯЛІКАБРЫТАНІЮ

Наогул прадбачвалася, што візіт **А. Касыгіна** ў Англіі будзе мець характар больш усяго галантны. Аднак ад першага дня візіту ўсё выглядала інакш. А вось цікавейшыя справы:

■ А. Касыгін сустракаўся з вялікай сардэчнасцю людзей і ўсялякіх улад.

■ А. Касыгін сцвердзіў, што «праўдападобна ў недалёкай будучыні будзе падпісаны дагавор у справе нераспаўсюджвання атамнай зброі». «А ФРГ хоча, ці не хоча, мусіць такі дагавор падпісаць». «Мы зробім усё, каб яна да атамнай зброі не мела ніякага доступу».

■ Неспадзявана А. Касыгін запрапанаваў Вялікабрытаніі шырокую праграму эканамічнага супрацоўніцтва.

■ А. Касыгін выразіў гатоўнасць падпісаць з Вялікабрытаніяй акт аб дружбе і неагрэсіі.

■ Дыскутавана над справамі В'етнама. Прапановы А. Касыгіна аказаліся настолькі важнымі, што прэм'ер Вільсан палічыў за неабходнасць неадкладна скантактавацца па тэлефоне з ЗША. Аднак хутка атрымаў з Вашынгтона адмоўны адказ.

Разам з А. Касыгінам у Вялікабрытаніі прабывалі: яго дачка, Людміла, і 19-цігадовы ўнук, Аляксей.

## АБ ВЫБАРАХ У ФРАНЦЫІ

Апошнія выбары ў Францыі адбыліся ў 1962 годзе, пасля заканчэння алжырскай вайны. Тады большасць партый падтрымоўвала дэ Голя. Парламент, які выбяруць французы ў гэтым годзе, згодна з канстытуцыяй кончыць тэрмін паўнамоцтваў у 1972 годзе. Дэ Голь будзе мець тады 82 гады і згодна з канстытуцыяй адбудуцца выбары прэзідэнта.

А. К.

# БССР

## ПЛЕНУМ

4 лютага адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

З дакладам «Аб задачах партыйных арганізацый рэспублікі па выкананню пастановы ЦК КП Савецкага Саюза **«Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі»** выступіў П. Машэраў, першы сакратар ЦК КП Беларусі.

У дыскусіі выступілі, між іншымі, У. Мікуліч — першы сакратар Брэсцкага абкома партыі, У. Міцкевіч — першы сакратар Гродзенскага абкома.

## ВЫЛУЧЭННЕ

У Беларусі набліжаюцца выбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі. У трактаразаводскай выбарчай акрузе горада Мінска вылучана кандыдатам у дэпутаты Леаніда Брэжнева, Генеральнага сакратара Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. У іншай выбарчай акрузе вылучаны кандыдатам у дэпутаты кіруючы дзеяч Савецкага Саюза М. Падгорны. У Гродзенскай-Горкаўскай выбарчай акрузе вылучана кандыдатам у дэпутаты А. Касыгіна — прэм'ера ўрада СССР, а ў Гродзенскай-Занёманскай выбарчай акрузе — М. Суслава.

Пастаноўлена прасіць іх даць сваю згоду на кандыдаванне.

## ПРАФСАЮЗЫ

Адбыўся пленум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, на якім абмеркавана задачы арганізацый прафесіянальных саюзаў у сувязі з 50-годдзем Савецкай улады.

## НАРАДА

У Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі адбылася інструктыўная нарада дакладчыкаў і членаў прапагандысцкіх груп. На нарадзе прысутнічалі члены і кандыдаты ў члены ЦК Кампартыі Беларусі, адказныя работнікі апарату беларускага ЦК, міністэрстваў і ведамстваў, навуковыя супрацоўнікі Акадэміі навук БССР, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў Мінска. З дакладам выступіў сакратар ЦК КП Беларусі, С. Пілатовіч.

## НАРОДНАГА

Адбылася нарада работнікаў органаў народнага кантролю Беларусі, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускіх вярхоўных партыйных, дзяржаўных і судовых улад. Абмеркавана вынікі за 1966 год, а таксама прадыскутавана некаторыя прапановы адносна паляпшэння дзейнасці органаў народнага кантролю.

## ФІЛЬМ

У Мінскім кінатэатры «Ударнік» дэманстраваўся польскі фільм «Рукапіс знойдзены ў Сарагосе», дзве серыі.

**(С.Я.)**

# ПОЛЬШЧА

## 1966 Г. У ЛІКАХ

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) апублікавала дадзеныя аб выкананні Нацыянальнага гаспадарчага плана на 1966 год. Падаем некаторыя дадзеныя гэтай публікацыі. План валавой прадукцыі **дзяржаўнай прамысловасці** выканана ў 101,5 прац. Валавая прадукцыя ўзрасла на 7,4 прац., прычым на каля 7,5 — быў узрост сродкаў вытворчасці і каля 6,8 — сродкаў спажывы. Найбольшы тэмп развіцця натавана ў галінах: машынабудаўніцтва, электратэхнікі, сродкаў транспарту і хімічнай прамысловасці.

У мінулым годзе дзяржаўныя мясныя прадпрыемствы атрымалі 1285 тыс. тон мяса, злоўлена звыш 314 тыс. тон марской рыбы, выпрадукавана 1216 мільёнаў літраў малака, амаль 118 тыс. тон масла, 173 тыс. тон тлушчу, 1545 тыс. тон цукру і 59 мільярдаў папяросаў.

Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ўзрасла на 5,5 прац. Ураджайнасць 4 збожжавых культур раўнялася 19 цэнтнераў з гектара, бульбы — 169 цэнтнераў з гектара.

Узрасло забеспячэнне вёскі будаўлянымі матэрыяламі: цэментам — на 2,4 прац., цэглай і чарапіцай — на 6 прац.

Насельніцтва краіны пад канец мінулага года асягнула лік 31,8 мільёна. Зраўнялася колькасць гарадскога і вясковага насельніцтва, натуральны прырост зменшыўся на 0,94 працэнта.

Лік працуючых у дзяржаўнай гаспадарцы ўзрос на 3,5 прац. і раўняўся 8 582 тысяч асоб. Вольных месц працы было 64 тысячы, людзей шукаючых працы зарэестравана ў тым самым часе 58 тысяч (у тым ліку 39 тысяч — жанчын без кваліфікацыі). Сярэдні месячны заработак у нашай краіне ўзрос у мінулым годзе на 4 прац. і раўняўся 2080 зл. брута. Рэальная заплата ўзрасла на 3 прац.

## КЛАСІКІ НА ЭКРАНЕ

Зацверджана сцэнарыі экранізацыі некаторых твораў класікаў польскай літаратуры. Між іншым будзем мець фільм паводле «Пана Валадыёўскага» Г. Сянкевіча, «Грабіна Косэль» І. Крашэўскага, «Лялька» Б. Пруса.

## ДАСЯГНЕННЕ ПОЛЬСКІХ ФІЗІКАЎ

Інстытут ядзернай фізікі ў Кракаве, якім кіруе сусветнай славы вучоны Генрык Неваднічанскі, выбудаваў некалькі т. зв. «Ядзерных спектраметраў» — прыбораў да доследаў над структурай матэрыі, прытым адзін з іх з'яўляецца, з увагі на дасканаласць памераў, якія можна праводзіць пры яго дапамозе, найлепшым такога роду прыборам у свеце. Спектраметр выкарыстаны будзе не толькі пры доследах у краіне, але і праз Аб'яднаны інстытут ядзерных доследаў у Дубнай.

(п)

# ВАЯВОДСТВА

## ВАЯВОДСКАЯ ПАРТЫЙНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Найперш у цэлым ваяводстве праходзіла вялікая падрыхтоўка. Адбыліся партыйныя павятовыя канферэнцыі, на якіх былі выбраны дэлегаты на ваяводскую партыйную канферэнцыю. І вось 17 і 18 лютага г.г. збяруцца яны ў сядзібе Ваяводскага камітэта ПАРП, каб абмеркаваць двухгадовую дзейнасць партыі ў ваяводстве. Яно ў нас мае сельскагаспадарчы характар і таму асабліва многа ўвагі ваяводская партыйная канферэнцыя прысвеціць сельскагаспадарчым справам. Больш падрабязна напішам аб гэтым наступным разам.

## СПУЛДЗЕЛЬЧЫЯ РАЗЛІКІ

Члены сельскагаспадарчых спулдзельняў прыступілі ўжо да падлікаў і падзелу гадавога прыбытку. За мінулы гаспадарчы год шматзначна замацавалі яны сваю гаспадарку. У Ваських на Гайнаўшчыне на адзін працадзень выпала па 95 злотых. А трэба ведаць, што за адзін рабочы дзень можна зарабіць 2 і больш працадзён. Пасля раздзелу прыбытку на працадні васькаўскім спулдзельцам асталося яшчэ 400 тыс. злотых на будаўніцтва і капіталаўкладанні. Кожны гектар спулдзельчага поля даў у 4 разы больш прыбытку як у аднаасобніцкай сялянскай гаспадарцы. Свой прыбытак падзялілі ўжо спулдзельцы з Крыўца ў Гайнаўскім павеце і ў Лужанах (Беластоцкі павет). Рыхтуюцца да падзелу ў Дарожках (Беластоцкі павет), Вольцы Нурэцкай і Тымянцы (Сямяціцкі павет). Спулдзельцы з Дарожак у далейшым славяцца высокімі ўраджаямі і добрай гадоўляй. Дабіліся яны за мінулы год: збожжавых 24,5 цэнтнера, бульбы — 220 цэнт. і 410 цэнт буракоў, а на 100 га зямельных угоддзяў налічваецца ў іх 90 штук кароў і 110 штук свіней. Апошнім часам дарожкаўцы заняліся вырошчваннем агародніны. Іх шклярні займаюць плошчу ў 1 га.

Спулдзельцы ў Тымянцы пашыраюць сваю дзейнасць на суседнія вёскі. Заснавалі яны свой філіял у Клюковічах, а незадоўга падобны філіял узнікне ў вёсцы Вычулкі. У Клюковіцкім філіяле загаспадаравалі яны сад і ставы. Намераны пабудаваць там прадпрыемства па вырабу фруктавых кансерваў. Між спулдзельчае будаўнічае прадпрыемства арганізуюць спулдзельцы ў Плюцічах. Усе прадукцыйныя спулдзельні Беласточчыны хутка перастаўляюць сваю гаспадарку на высокатаварную прадукцыю. Асабліва добрых вынікаў дабіліся яны ў гадоўлі мясных куранят т. зв. брайлераў.

## УЗНАГАРОДЫ ДЛЯ АШЧАДНЫХ

У Ваяводскім аддзеле ПКО нядаўна адбылося лясаванне 167 узнагарод сярод удзельнікаў кастрычніцкага конкурсу «300». 1 талон на тавары вартасцю ў 5000 зл., 4 талоны — на 2000 зл., 8 — на 1000 зл., 35 — на 500 зл. і 119 — на 300 зл.

(вр)




NIEDZIELA 19. II.

8.30 Politechnika TV; 10.40 PKF; 10.50 Dla młodych widzów: „Sporty zimowe" odc. III; 12.00 Turniej miast: Zakopane — Smokowiec; 14.15 „Przemiany"; 14.40 Dla młodych widzów: „Liga Entuzjastów Wakacji"; 15.20 Dla dzieci: „Bezludna wyspa" („Ula i świat"); 15.40 „Teatrzyk Jadwigi Rutkowskiej"; 16.20 „Elza" L. Aragona; 17.05 Koncert kompozytorski Arama Chaczaturiana; 18.05 „Wielka gra"; 19.00 „Doba" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Śpiewa Ronnie Tober (Holandia); 20.30 Felieton literacki; 20.45 „Czerwona oberża" — film fab. fr.; 22.20 Niedziela sportowa.

PONIEDZIAŁEK 20. II.

16.55 Dziennik; 17.00 Dla dzieci: „Chodzi lis koło drogi" — film; 17.10 Dla młodych widzów. „Tajemnica i zwyczaje pocztowego znaczka"; 17.30 „Kto ich zrozumie?" („7 milionów młodych"); 17.45 „Gorąca linia"; 18.20 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Kryptonim PL"; 20.30 Teatr TV: J. Zawieyski „Krzyk w próżni świata"; 21.30 „Na półkach księgarskich"; 21.40 „Perły i tankowce" — rep. film.; 21.55 Dziennik.

WTOREK 21 .II.

10.00 „Wielka wojna narodowa" — film dokument. radz.; 11.55 Dla szkół: (kl. XI) B. Brecht „Matka Courage"; 15.25 „Kiszenie pasz"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17,05 „Zrób to sam„; 17.20 Dla młodych widzów: „Profesor Cegielski zakłada fabrykę"; 17.45 „Telekram"; 17.55 „Giełda piosenki"; 18.35 „Spokojna starość" — program dokument.; 19.00 Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc, 19.30 Dziennik; 20.00 „Wielka wojna narodowa" — film; 21.45 „Na wielkim ekranie"; 22.25 Dziennik; 22.45 Politechnika TV.

ŚRODA 22. II.

10.00 „Potwór" — film („Swięty"); 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Opór elektryczny"; 16.20 „Przypominamy, radzimy"; 16.30 PKF; 16.40 „Figlarny staruszek" — film („Stare gagi"); 16.55 Dziennik; 17.00 „Klub Pancernych"; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Wszechnica TV: „Za kierownicą"; 18.20 „Wiem wszystko" — teleturniej; 18.50 „Warszawskie kontrapunkty"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Mazurki Chopina" — film pol.; 20.15 „Potwór" — film („Swięty"); 21.05 „Światowid"; 21.35 Mały Teatr TV: W. Rogowski „Tariki"; 22.25 Dziennik.

CZWARTEK 23. II.

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „W przededniu klęski"; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) „Michał Szołochow"; 16.15 TV Klub Rolniczy: „Odżywianie się roślin i nawożenie roli"; 16.45 Pod Krzyżem Południa — film bułg.; 16.55 Dziennik; 17.00 „Kino Ptyś"; 17.20 Dla młodych widzów: „...trzy, dwa, jeden, zero, start!" odc. II; 17.40 Koncert Młodych w wyk. młodych artystów radzieckich i polskich; 18.20 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 18.40 Kino Filmów Amatorskich; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Żołnierskie Tysiąclatki" „Między niebem a ziemią"; 20.20 Teatr Sensacji. A. Zbych „Cicha przystań" — („Stawka większa niż życie") odc.V; 21.20 „Free Europe Commitee" — progr. Red. miedzynarodowej; 21.45 Dziennik.

PIĄTEK 24. II.

12.00 Dla szkół: (kl. II) „Proszę, dziękuję, przepraszam"; 12.45 Dla szkół. (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Mój pojazd mechaniczny"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 „Dolina Królów" — film cz. III; 17.50 Wszechnica TV: „Malarstwo angielskie od Hogartha do Turnera"; 18.20 „Wielokropek"; 18.35 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Kurier Mazowiecki; 20.15 „Na przechadzce" — program baletowy: 20.40 „10 minut recenzji"; 20.50 „Nim skończy się noc" — film fab. CSRS; 22.15 Dziennik; 22.30 „Trybuna Telewizyjna".

SOBOTA 25. II.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Alpy"; 10.30 „Moneta z orłem" — film fab. USA; 16.15 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli. „Ocena"; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla młodych widzów: „Łódzka Kronika Dziewcząt i Chłopców"; 17.15 Dla dzieci: „Teatrzyk Kieszonkowy"; 17.45 „Nagonka" — film („Świat, który nie może zginąć"); 18.10 „Po szóstej"; 18.55 „Warszawa, ja i Ty"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „O jedną za wiele" — film („Błękitny express"); 20.30 „3.000 sekund z Mieczysławem Foggiem"; 21.25 Dziennik; 21.40 Wiadomości sportowe; 21.55 „Moneta z orłem" — film fab. USA.




17 LUTEGO, PIĄTEK

8.00 Szkolna filmoteka; 14.45 Program; 14.50 Dla uczniów; 15.10 Dla przedszkolaków. Filmy mult.; 15.30 Dziennik pięciolatki; 16.00 Dziennik TV; 16.20 Agitpunkt TV; 17.20 Kurier wiejski; 18.00 Sztafeta nowin; 19.00 „Popiół i diament" — film; 20.40 Gra „Charkowczanka".

18 LUTEGO, SOBOTA

11.10 Dla uczniów; 12.00 Na szerokościach szkolnych; 13.00 Dziennik; 13.20 Muzeum „O władzę Rad!"; 14.00 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie (kobiety); 15.00 Klub Filmowy; 16.00 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie; 17.15 Los aktora. — Program prowadzi A. Batałow; 18.45 Dziennik; 19.00 Poczta „Ogonioka"; 19.45 Złote góry — film.

19 LUTEGO, NIEDZIELA

8.00 Budzik; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Program o orkiestrze zespołu pieśni i tańca Mińskiego połacu pionierów; 9.40 Białe i czarne. — Klub szachistów; 10.00 Nad świtem. — Spektakl Mohylowskiego teatru komediowego; 12.55 Mistrzostwa świata w hokeju z piłką. — Szwecja—ZSRR; 14.45 Okno satyry; 15.00 Estrada — 67; 16.00 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie (kobiety); 17.05 Głęboki wywiad. — O wywiadowczo-dywersyjnej grupie „Artur", która podczas ostatniej wojny działała w Mińsku; 18.00 Dziennik; 18.15 Światło i cienie; 18.45 Szkatułka muzyczna; 19.05 J. Kupała „Prymaki". Premiera spektaklu Telewizji Białoruskiej; 20.00 Wieczór baletowy; 21.00 Hokej.

# ЭТНАГРАФІЯ



ШЧЫТ ХАТЫ РЫГОРА АНДРЭЮКА З ВЁСКІ ЦЕЛУШКІ, БЕЛЬСКАГА ПАВЕТА. ФОТА УЛ. ЮЗВВЮК

Было гэта гадоў 80 таму назад. Міхал Федароўскі ездзіў сам па Сакольшчыне, а таксама праз сваіх знаёмых збіраў матэрыялы да вялікай працы аб беларусах. Мела гэта быць праца ў дзесяці вялікіх тамах. Федароўскі не закончыў свайго апісання жыцця і культуры беларускага люду, аставіў аднак па сабе багатую спадчыну, якая зараз апрацоўваецца і выдаецца. Федароўскі лічыў народную культуру беларусаў найбагацейшай і найцікавейшай з усіх славянскіх культур. На думку Федароўскага беларуская народная культура, як ніводная з народных культур, захавала ў сабе стары дахрысціянскі, дагістарычны змест, захавала багацце дагістарычнай культуры славян. Так было ў канцы мінулага стагоддзя. А некалькі дзесяткаў гадоў пазней, адзін з ксяндзоў аб гэтых самых апісваемых Федароўскім сакольскіх беларусах пісаў наступнае: «Зніклі з аблічча зямлі ў гэтай аколіцы народныя звычаі, песні, абрады і ўборы — словам — уся народная

## ПЫТАННІ І ПРАБЛЕМЫ

# БЕЛАРУСЫ НА САКОЛЬШЧЫНЕ

культура. Бо нічога тут свайго народ не мае, апрача мовы беларускай, да якой таксама не ведае, ці прызнавацца».

Так пісаў ксёндз Шырокі ў сваёй кніжцы пад загалоўкам «Monografia parafii Janowskiej» выдадзенай у 1936 годзе. А. Вінцук Кшыштофік, аўтар іншай манаграфіі аб сакольскіх беларусах, манаграфіі вёскі Ясёнаўка, пісаў у гэтым больш-менш самым часе:

«Адной з характэрных рысаў мясцовага насельніцтва з'яўляецца недахоп прывязанасці да ўласнай традыцыі, лёгкасць ва ўспрыманні ўсяго чужога, нешанаванне свайго. Таму ў цёплыя летнія вечары можна тут пачуць розныя «заўнылыя» думкі з-над Дону ці Волгі, або жаўнерскія песні завучаныя ў арміі».

Калі б нават заўвагі ксяндза і Кшыштофіка былі пераўвялічанымі, на жаль, многа ў іх сумнай праўды.

Зарэстраваны ў Заходняй каталіцкай Сакольшчыне ў міжваенны перыяд адыход ад уласнай традыцыі прадаўжаецца і ў нашыя часы: змяншаецца паступова штораз больш карыстанне беларускай мовай, гінуць амаль усе элементы народнай традыцыі, у нацыянальным аспекце вёскі гэтыя найчасцей лічацца польскімі, а не беларускімі. Панящце польскасці так звязалася з гэтымі вёскамі, што некаторыя стараюцца нават адмовіць беларускасці іх традыцыйнай этнічнай культуры, што з'яўляецца ўжо абсалютнай недарэчнасцю, у сувязі з тым, што раён гэты мае багатую этнаграфічную і мовазедную літаратуру.

Зразумела, для беларуса факт пакідання грамадствам традыцыі, сярод якой многа элементаў вартасных і цікавых — з'ява наогул сумная. Апрача суму ёсць аднак і другое пачуццё. Гэта здзіўленне. Здзіўленне, што гэтая з'ява адбылася так хутка, што так хутка вясковая грамадскасць магла зрэзігнаваць з асноўных элементаў сваёй багатай, уфармаванай шматстагоддзевым намаганнем вясковых геніяў духовай, грамадскай і матэрыяльнай культур. І яшчэ адно: чаму працэс такога характару і ў такім тэмпе не адбыўся ва ўсходняй Сакольшчыне, у вёсках, дзе пераважае насельніцтва праваслаўнага веравызнання?

Маем тут дачыненне не толькі з іншым тэмпам пераўтварэнняў вясковай культуры, але і з зусім іншым напрамкам гэтых пераўтварэнняў. Усходнесакольская вёска захавала ў значнай ступені традыцыю мовы і фальклору, адкінула тым часам усю традыцыйную філасофію грамадскага жыцця і грамадскага ладу, зрадыкалізавалася, сталася ў міжваенны перыяд небяспечнай для пануючых у дзяржаве парадкаў. Заходнесакольская вёска наадварот: адкінула традыцыю мовы і фальклору, захавала тым часам традыцыйны беларускі спакой, цішыню, пашану аўтарытэту ўлады і пануючых парадкаў. Усходняя Сакольшчына ідэнтыфікуецца з усходняй славяншчынай, заходняя — з заходняй. А ў цэласці — гэта адзін і той самы «люд», адной і той самай культуры, традыцыі і мовы.

Чым выясніць такое разрозненне? Уплывам веравызнання? А калі так, то якім элементам: дактрынай, абраднасцю ці проста — актыўнасцю духавенства? А можа ўплыў гэта фактараў эканамічных, палітычных, ці яшчэ нейкіх іншых?

Аўтар не паспрабуе даваць адказу на гэтыя пытанні. Паспрабаваць аднак было б цікава, патрэбна і карысна. Каб паспрабаваць, трэба было б перад усім сабраць і абагульніць вынікі доследаў, якія вядзе ў гэтым раёне шмат інстытутаў і навуковых устаноў краіны.

**Ул. Паўлючук**

Кнігазбор на беларускай мове ў 53 публічных бібліятэках ваяводства складае 12.500 экземпляраў. Яны размешчаны ў паветах: Бельскі — па 280 кніжак на адну бібліятэку, Гайнаўскі — па 246 кніжак, Сакольскі — па 237 кніжак, Сямяціцкі — па 89 кніжак, Беластоцкі — па 204 кніжкі.

У 1965 годзе на 610 заказаных кніжак прыбыло толькі 56. У 1966 годзе на 4219 заказаных — 554. На аднаго чытача прыпадае 4,5 кніжкі (агульная ваяводская 7,3 кніжкі).

Беларускую кніжку пазычаецца ў год 1,3 разы.

* * *

Час ад часу і магчыма часта да справы беларускага чытальніцтва вяртацца трэба і будзем, бо яно важны момант у культурнай дзейнасці нацыянальнай беларускай меншасці ў Польшчы. Ролю кніжкі на кожным кроку мы дацаніць навучыліся, ролю беларускай кніжкі яшчэ ўсё не.

Праўда аднак выглядае так, што беларуская кніжка сярод польскіх беларусаў не мае лёгкага жыцця. І для абароны на гэты раз беларуса, трэба сказаць, з віны самой кніжкі. Кніжка гэтая не цікава. Сярод 12 тысяч беларускіх кніжак найменш палавіну ніколі

## ЯКАЯ ПРАЎДА?

# Лёс беларускай кніжкі



ніхто не будзе чытаць, і яны непатрэбна залягаюць полкі грамадскіх бібліятэк. Абніжаюць паказчык эфектыўнага чытальніцтва меншай часткі кніжак на беларускай мове. У той частцы знойдзем перад усім дзіцячую літаратуру, якая складае 3/4, калі не больш, беларускага чытальніцтва, і некаторыя пазіцыі з ваенна-партызанскай прозы, якія чытаюцца ахвотна. Мноства паэзіі — розных дэбютаў і зборнікаў на кожныя аказіі і юбілеі шматтомныя манагонныя зборы твораў, ляжаць нерухома нячытаныя.

Усе яны аднолькавага колеру і велічыні, у аднолькавых вокладках, стаяць на полках і нічым не прыцягваюць увагу чытача, бо нічым не здраджаюць багацця свайго нутра. А вынік? Вось такі Чорны (такі Чорны!) у бібліятэцы ў Нарве стаіць са сваім зборам непарушана ад 1959 года і ніхто ні разу ніводнага тома не ўзяў у рукі. Калі б я вяла чытальніцкую палітыку, заставіла б хваліць Чорнага, яго апавяданні, яго «Зямлю», «Лявона Бушмара», «Трэцяе пакаленне», «Вялікі дзень» і г.д., і г.д. Чорным можна цікавіцца, можна яго чытаць, толькі не ў акадэмічным зборы твораў у шасці тоўстых тамах.

Розныя кантакты могуць тут памагчы. Не толькі сухімі абяцанкамі на высокім узроўні. Зайздрошчу, напрыклад, невялікай групе польскіх літоўцаў, што не маюць яны ніякіх цяжкасцей з літоўскімі кніжкамі.

Нашы бібліятэкары — тыя з тэрэну і тыя зверху — не могуць зразумець, чаму цяжка з пакупкай беларускай літаратуры, калі ніякая сума грошай на гэта не абмяжоўваецца. Кідаецца ваяводская бібліятэка (яна купляе кніжкі) на розныя просьбы да Беларускага таварыства ў Польшчы (мо вы што паможаце?), да БЕЛОКС-у ў БССР (мо вы што паможаце?) Вынік — ніякі, або мізэрны. Праўда, дзесятая частка зрэалізаванага некалькітысячнага заказу ў 1966 годзе свеціць слабой, але ўсё ж надзеяй.

**Вера Леўчук**

P.S

Свой голас захрыплы на старонках «Нівы» лічу голасам у безупыннай дыскусіі аб беларускай культуры. Выдаецца, што час гаварыць аб гэтым больш голую праўду, чым дасягненні мераныя поспехамі «Мікітавага лапця».




Класныя рады называюць часта класным самакіраваннем. Самакіраванне — істотная справа. Тым больш сярод маладых людзей, якім вельмі часта прыпісваюць старэйшыя безідэйнасць, брак заангажаванасці, абыякавасць.

Мне ўдалося сабраць матэрыял аб думках вучняў адной сярэдняй школы Бельска. Справа адбывалася ў гэтым навучальным годзе ў адным з першых класаў. А пачалося так.

Свайго часу, калі настаўніца І. выйшла, як заўсёды пасля званка, з класа, пачула за плячыма голас вучаніцы:

— Пані прафесар! Пані прафесар! — гаварыла яна паўголасам. — Хачу з вамі пагаварыць.

Пані І. была выхавацельніцай І «д» і пачала слухаць. думаючы, што гэта адна з простых штодзённых спраў. Але вучаніца расказала ёй, што ў класе хочуць змяніць старшыню класнай рады, таму, што дагэтуляшняя ім не падабаецца, і тут пачала пералічваць, чаму. У такім становішчы цяжка адразу было прыняць рашэнне. Трэба ж ведаць, што думае цэлы клас. Настаўніца ведала, што вучні адкрыта не скажуць, усё ж яны некалькі месяцаў разам, яшчэ не зжытыя.

На выхаваўчым уроку праводзіць выхавацельніца ананімную «анкету», у якой просіць вучняў напісаць, што хто думае аб працы кожнага з членаў рады. Вынік быў здзіўляючы. Толькі адна вучаніца напісала, што «класная гаспадыня вывязваецца з абавязкаў і можа далей астацца», а другая сцвердзіла, што «гаспадыня не вывязваецца з абавязкаў, але наогул ветлівая і можа далей астацца». Апошнія 35 вучняў выказалі жаданне змяніць гаспадыню. Калі разыходзіцца пра апошніх двух членаў класнай рады, дык ніхто супраць іх не выступіў. Выказванні вучняў а гаспадыні сведчаць аб тым, што гэтыя наймалодшыя ліцэісты вельмі цікавяцца сваім калектывам і дбаюць аб яго гонар. Прывяду некалькі прыкладаў з ананімных картак:

«Гаспадыня З.М. не выконвае сваіх абавязкаў, не робіць таго, што скажа клас, стаўляе свае прапановы і выконвае іх, як хоча».

«Як гаспадыня, павінна яна арганізаваць у класе вучнёўскую самадапамогу ў навучанні».

«Можа яна і добра працуе, але адносіны яе да нас дрэнныя. Яна часта сама вінавата ў чымсьці, але так выкруціцца, што цэлы клас мусіць адказваць за яе адну».

«З.М. напышлівая, ганарыстая».

Сапраўды З.М., як класная гаспадыня, пачала быць напышлівай, ганарыстай. Пачала абыякава адносіцца да класнага калектыву, які ўсё ж імкнуўся быць перадавым у школе. Як гавораць сёння ўзрослыя, З.М. «адарвалася ад калектыву» і таму гэты ж калектыў так строга яе асудзіў. З. М. хіба адчувала, што паступае кепска, але думаючы, што выхавацельніца нічога не ведае, «грэзла» далей. Пасля такой ацэнкі ведала, што вучні-сяброўкі скажуць усё пра яе. Пачала задумоўвацца, як змяніцца.

Настаўніца І. аднак не запрапанавала класу новых выбараў, хаця і найлягчэй было б гэта зрабіць, а З.М. пачала змяняць свае адносіны да калектыву, гэтым самым перапрашаючы яго. Зрэшты, клас яе не зненавідзеў, але жадаў добрай працы і паводзін.

Вось якія яны, тыя, якім прыпісваем часта абыякавасць, незаангажаванасць, безідэйнасць.

**А. Лабановіч**

# Гэтых дзён нам не забыць

Было гэта якраз 23 гады назад. Вечарам 4 лютага 1944 года да Хведара Сідарука ў Кузаве (Гайнаўскі павет) зайшоў добры яго знаёмы Алесь Бараеы. У кампаніі з ім быў яшчэ адзін незнаёмы, якога Алесь адрэкамендаваў сваім братам, Валодзькам. За акном стаяў ранні вечар. У хаце цёпла і прыемна, а да таго паўтарак самагонкі стварыў святочны настрой. Павячэраўшы, Хведар з Алесем і Валодзькам выйшлі на панадворак. Мелі важны сакрэт, аб якім немагчыма было гаварыць у хаце. Забавіліся нядоўга. Але вярнуліся не самі. Разам быў аднавясковец Іван Раманчук з суседкаю. Гэтую пару сустрэлі пад акном у час падслухоўвання. І хоць няпрошаныя госці нядрэнна апраўдаліся, усім было вядома, што прыйшлі шпіёніць. Патросшы пісталетам пад носам, Алесь адпусціў Раманчука дамоў. Аднак прадчуванне гаварыла: асцерагайцеся!

Хведар Сідарук пайшоў да працы. Госці ляглі спаць не распранаўшыся. Не спалася ім. Нешта гаварыла: беражыцеся! Бяда будзе!

Недзе каля поўначы задрамалі. Разбудзіла іх грукатанне ў дзверы і голас Хведаравай жонкі, Ольгі: — Хлопцы, уставайце, бяда. Немцы! — Нічога! — открывай хозяйка, — ціха шапнуў Валодзька. — Не бойся!

Але Ольга не паспела ўжо адкрыць. Дзверы з грохатам вылецелі з завесаў. Уварваліся ашалелыя фашысты.

— Устаць! Рукі ўгору! — закрычаў тоўсты жандар. Валодзька з Алесем паслухмяна паднялі рукі. У Алеся не знайшлі нічога. Раптам другі немец закрычаў: — Гэты бандыт мае зброю. Валодзька атрымаў два ўдары ў твар. Раздаўся выстрал. І пачалося сапраўднае пекла. Стральба чулася ўсюды: і ў хаце, і на панадворку. З печкі даходзіў плач дзяцей, а з ложка енк Хведаравай жонкі. Алесь з Валодзькам уцяклі з хаты. Пакінулі нямецкія грошы, падробленыя дакументы (у Баравога былі сапраўдныя) і трупы забітых жандараў. У хаце засталіся цяжка параненая Хведарава жонка, спалоханыя дзеці. Ніхто не ведаў, што прынясе раніца.

Хведар Сідарук не вярнуўся дамоў. Каля хаты яго ўзялі жандары. Накінуўшы наручнікі на рукі, павялі ў Чаромуху, а потым адвезлі ў Бельск-Падл. Адтуль у канцэнтрацыйныя лагеры: Бухенвальд, Нойгам, Дахаў, Альбершат, Штутгоф — гэтыя назвы гавораць самыя за сябе. Адтуль вярталіся толькі шчаслiўцы. Да гэтых шчаслівых людзей можна залічыць і Хведара Сідарука. Вярнуўся ён дамоў пасля вайны. Але здароўе адабралі фашысцкія звяругі. Часта ўспамінаў Хведар Сідарук мінулае сваёй сям'і. Да 1959 г. не ведаў, што сталася з таварышамі — Валодзькам і Алесем. Загінулі яны ці асталіся ў жывых? І тут памагла «Ніва». На яе старонках было надрукавана апавяданне А. Амільяновіча «Дэсант Дальнія», у якім гаварылася, што 4.II. 1944 г. партызаны з атрада Смірнова ў Кузаве забілі двух жандараў. Далей гаварылася, што парашутыст «Валодзька» (які забіў немцаў у сідаруковай хаце) жыве і працуе ў Беластоку. Праз нейкі час сям'я Хведара Сідарука сустрэлася са сваім героем — Валодзькам.

Рада Дзяржавы Хведара і Ольгу Сідарукоў за супрацоўніцтва і дапамогу партызанам узнагародзіла Партызанскім Крыжам Заслугі.

**Мацейка**

---

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# ЕЖЫ ВЯТР АБ НАЦЫЯХ І НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯХ

Трэба сказаць, што сучасная польская сацыялогія ў супрацьлегласць міжваеннай — мала цікавіцца нацыянальнай праблематыкай. Да выключэнняў належаць некаторыя працы Ежы Вятра. Нацыянальнаму пытанню прысвяціў ён выдадзеную ў 1962 годзе кніжку пад загалоўкам: Naród i rasa w świadomości społecznej», а ў выдадзенай у 1964 годзе кніжцы: «Społeczeństwo. Wstęp do socjologii systematycznej» нацыянальным справам Вятр прысвячае цэлы раздзел. У гэтай апошняй кніжцы аўтар разглядае розныя немарксісцкія тэорыі нацыі, а наступна характарызуе тэорыю марксісцкую. Падае ён тры акрэсленні нацыі: Отто Бауера, Сталіна і Кардэлія. Асаблівую ўвагу Вятр прысвячае сталінскаму акрэсленню, таму што было яно праз доўгі час абавязваючым ва ўсіх падручніках і апрацоўках. На думку Вятра акрэсленне гэтае надта канкрэтнае, і таму непрыдатнае. Сталін падае менавіта, як неадлучныя атрыбуты нацыі чатыры рысы: супольнасць мовы тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу. На думку Вятра ўсе гэтыя рысы не з'яўляюцца неабходнымі для існавання нацыі.

Ставячы пытанне аб характары нацыянальнай свядомасці Вятр даходзіць да вываду, што характэрнай рысай адрозніваючай яе ад іншых форм этнічнай свядомасці з'яўляецца імкненне да стварэння ўласнай дзяржавы. Там, дзе такое імкненне выступае, можам гаварыць аб нацыі, там дзе яго няма — маем дачыненне толькі з этнічнымі групамі.

Да этнічных груп Вятр залічае і нацыянальныя меншасці, якія «могуць быць так адлеглыя ад мацярынскай нацыі, што пераабразаваныя ўжо ў асобныя, унутрана моцна зінтэграваныя супольнасці». Нацыянальным меншасцям прысвячае Вятр у сваёй кнізе асобны падраздзел, у якім аналізуе розныя формы сужыцця і канфлікту паміж пануючай нацыяй а нацыянальнымі меншасцямі.

(п)

---

ЛЮДЗІ БГКТ

# Пятро Ластаўка



Таму, хто ведае П. Ластаўку цяжка сабе ўявіць гэтага надта энергічнага чалавека без працы, які ўжо два гады не выходзіць са сваёй кватэры ў Міляну ўку пад Варшавай. Ён жа яшчэ не стары. 16 лютага г.г. споўнілася П. Ластаўцы 60 гадоў. Складаем візіт цяжка хвораму на сэрца актыўнаму дзеячу БГКТ, якога застаем пры кніжках сваёй багатай бібліятэкі. У бібліятэцы знаходзяцца рэдкія ўжо беларускія віленскія кніжныя выданні, апраўленыя гадавікі беларускіх часопісаў. Гэта багатая гісторыя беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў санацыйнай Польшчы, у якім ад 15 гадоў свайго жыцця прымаў актыўны ўдзел і П. Ластаўка.

П. Ластаўка з'яўляецца арганізатарам і актыўным дзеячом Беларускай сялянска-работніцкай «Грамады» ў Дзісненскім павеце. За актыўную грамадскую дзейнасць у верасні 1926 года санацыйныя ўлады арыштоўваюць П. Ластаўку і саджаюць у турму. У жніўні 1929 года ў акруговым Віленскім судзе адбыўся суд над апошняй групай дзеячоў «Грамады», у якой разам з П. Ластаўкай судзіўся паэт М. Машара.

Пасля выхаду П. Ластаўкі з турмы праследванне паліцыі працягвалася, і ён пакідае сваю родную вёску Жукі-Ложныя і пераязджае ў Варшаву. Ды і тут не спыняе грамадскай працы. У 8 нумары «Шляху моладзі» ад 25.III.1938 года П. Ластаўка піша:

«...Я з'явіўся ў Варшаве ў 1931 годзе. Спачатку быў безработным, а пасля цяжка працуючы на кавалак хлеба, часта думаў аб стварэнні беларускай арганізацыі ў Варшаве і ўрэшце ў 1936 г. зрабіў у гэтым кірунку першую спробу. Быў апрацаваны статут, адбыўся сход і думалі мы залажыць Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве, аднак улады яго не залегалізавалі. Не трацячы надзеі, 23.XII. 1937 г. зноў ад пачатку панаўляем просьбу, змяніўшы назоў арганізацыі на Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве...»

6.II.1938 г. адбыўся першы супольны сход Таварыства, на якім П. Ластаўка быў выбраны сакратаром.

Апрача арганізацыйнай працы П. Ластаўка займаецца журналісцкай і літаратурнай дзейнасцю. Шмат сваіх рамантычных апавяданняў змяшчае ў такіх часопісах, як «Jutro pracy», «Warszawianka», «Moje powieści» і іншых.

П. Ластаўка трапляе ў 1938 г. і ў чэшскі друк. Часопіс «Venkow» друкуе яго апавяданне «Blahosloweni», а «Slowensky prehled» абшырны артыкул аб заходнебеларускай літаратуры.

Польскія часопісы «Kultura», «Ruch słowiański», «Naród i Państwo» таксама змяшчаюць абшырныя артыкулы П. Ластаўкі аб заходнебеларускай літаратуры ў Польшчы. Варта ўспомніць і аб тым, што ў 1934 г. выйшла з друку рамантычная аповесць П. Ластаўкі «Bezsenne noce».

У 1957 г. «Ніва» надрукавала два апавяданні П. Ластаўкі «За варотамі» і «Маладыя ўзрывы», а «Літаратура і мастацтва» ў 1958 г. — апавяданне «Звычайны выпадак».

П. Ластаўка быў арганізатарам і актыўным членам Праўлення Варшаўскага аддзела БГКТ, членам Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. Працуючы дырэктарам Прамыслова-гаспадарчага прадпрыемства «Betesca» і прэзасам спулдзельні працы «Betesca», выпрацоўваў фінансавыя сродкі на дзейнасць Беларускага таварыства.

Цяжкая хвароба адарвала П. Ластаўку ад яго грамадскай, літаратурнай і прафесіянальнай працы. У 60-ую гадавіну з дня нараджэння і 45-ую гадавіну грамадскай працы пажадаем Юбіляру ў першую чаргу паляпшэння здароўя, а аднача сова павароту да грамадскай працы на карысць свайго народа, працы, без якой П. Ластаўка ніколі не ўяўляў свайго жыцця.

**Віктар Швед**

---

роддзя? Гэта ж маленькае прадпрыемства, хутчэй падобнае на мануфактуру.

У васількоўскім прадпрыемстве «Бэтэскі» працуе 11 чалавек: двух з Беластока, 4-х з суседняй вёскі Дамбруўкі і 5 з Васількова.

— Ды яшчэ, — дабаўляе кіраўнік прадпрыемства Ян Цірэшка, — працуюць для нас двух беластоцкіх дамаўнікоў. Яны прадукуюць абрусы.

— А ці не маеце намеру пашыраць накладной прадукцыі?

— Так, у гэтым годзе новыя дамаўнікі з Беластока будуць выпускаць торбы на вопратку з нейлонавай фоліі. Мы абяспечваем іх неабходнымі прыладамі і матэрыяламі. Месячная прадукцыя васількоўскага прадпрыемства складае ў сярэднім вартасць 400 тысяч злотых. Іх тавар распаўсюджваецца па ўсім ваяводстве і краіне.

Можна было б выпускаць дзесяць раз толькі цыраты і абрусоў ды ўсё пайшло б, як вада. На жаль, васількоўская «Бэтэска» дагэтуль не магла пашырыць прадукцыі. Пасля двухгадовай дзейнасці ёй прышлося спыніць працу і заняцца грунтоўным рамонтам. Пасля яго заканчэння вытворчасць прадпрыемства ўзрасце на 30 працэнтаў.

— Ці жыхары Васількова цікавяцца вашым прадпрыемствам?

— Яшчэ як! У нас высокія заработкі — ад 2400 да 3200 злотых. Быў час, што дзверы не зачыняліся.

База «Бэтэскі» ў сталіцы пагасціць ўжо нядоўга. Згодна з праграмай так званай дэгламерацыі мае яна перанесціся з Варшавы да канца гэтага года. Намерана абсталявацца ў Васількове. Там запланавана ўжо пабудову адпаведных будынкаў. Пэўна, у Васількова перабяроцца найлягчэй, бо месца ўжо сагрэтае.

Але ці абавязкова ў Васількова? А можа ў Мілейчыцы, Крынкі, Нарву, Боцькі, Заблудаў, Гарадок...? Можа? Яшчэ не позна.

**В. Рудчык**

Фота аўтара

**Цыратныя ўзорыстыя дарожкі, якія выпускае прадпрыемства «Бэтэскі», ахвотна купляюць ва ўсёй краіне.**

---




### БЕЛАВЕЖСКІ ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ ЦЭНТР

Белавежцы (маю тут на ўвазе Таварыства прыяцеляў Белавежы), хоць зіма і мароз, хоць пушча снегам засыпана, не спыняюць сваёй вялікай сістэматычнай культурна-асветнай працы. У мяне сабралася (нейкі час не было мяне ў Беластоку) горба картак і лістаў ад іх. Навязалі белавежцы добрае супрацоўніцтва з Інспектаратам асветы і культуры ў Гайнаўцы, які ім памагае. Такім спосабам прыязджаюць у Гайнаўку і Белавежу вучоныя з Лодзі, Вроцлава і з Масквы. З Універсітэта Ламаносава быў **праф. др А. Г. Воранаў** — слаўны біёгеограф.

Сам старшыня ТПБ **доц. др Януш Фаліньскі** выступаў з двума дакладамі: «У падножжа Каўказа» і «Наш край таксама прыгожы». Усе гэтыя даклады, спатканні адбываюцца ў рамах цікавай папулярна-навуковай серыі дакладаў «Свет вакол нас». Белавежскі свет, прэзентаваны прыяцелямі Белавежы, вялікі, розны і цікавы.

Родзіцца перакананне: у Белавежы вакол ТПБ паўстае жывы цэнтр папулярна-навуковай дзейнасці, у такім маштабе бадай адзін на Беласточчыне.

### ТЭАТР

У Беластоцкім тэатры ішло некалькі п'ес. У апошнім часе ўвайшла на сцэну п'еса **Яраслава Абрамава** (сын **Ігара Неверлі)** «Анёл на станцыі». Сучасная гэта рэч, крытычная. Многа смеху. Смеху з самога сябе. Гэта добра!

### КАНЦЭРТЫ

Беластоцкі сімфанічны аркестр выступаў з такой славай, як **Багдан Папроцкі** — тэнар. Аркестр развіваецца. Ужо 65 музыкантаў мае. Усё гэта яшчэ малы аркестр, але ўжо поўны малы.

### ВЫСТАЎКІ

Пасля вялікай гадавой выстаўкі палотнаў беластоцкіх мастакоў, пачалася серыя індывідуальных выставак.

Цікавейшай з індывідуальных выставак у студзені была выстаўка беластоцкага авангардзіста **Юркі Лянгевіча.** Яго геаметрычныя шэрыя палотны прыцягваюць сваёй арыгінальнасцю. Пачынаецца размова ў Беластоку аб тым, што трэба падцягнуць мастакоў-скульптараў (разьба). Такія ў нас ёсць, але дагэтуль не мелі асаблівых магчымасцей у сваім напрамку.

### КАМІСІІ КУЛЬТУРЫ

Сабраліся дзве разам: Камісія культуры КВ ПАРП і Камісія культуры Прэз. ВРН. Як рэдка, пасяджэнне было талковым. Аб цяжкім жыцці культуры гаварылася са знаўствам і рэалізмам. У сакавіку будзе спецыяльная сесія ВРН аб культуры — першая ад многіх год. Ужо гэта сведчыць, што на справу культуры глянулася ў нас інакш, што яны ўвайшлі ў сям'ю ўсіх іншых важных спраў ваяводства. Вельмі добра! Сведчыць гэта і аб шэфах культуры, як у партыі, так і ў радах нарадовых.

**В. Л.**

БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Адзін з вучэбных корпусаў Мінскага медыцынскага інстытута.

Цуды нашага веку

# ПАЛІЧЫМ

Так, палічым: 1... 2... 100... 100 000... 1000 000... 1000 000 000.

А далей?

— Навошта далей?

Зараз пабачым. Ацэньваецца, што чалавек у сярэднім важыць 61 кг. Значыць — 61 000 грам. На нашай планеце жыве звыш 3.000.000.000 (3 мільярды) людзей. Іх супольная вага будзе тады 61х3.000.000.000, што дае лік:
183.000.000.000 (183 мільярды) кг або 183.000.000.000.000 грам. (183 більёны).

Як жа тады наша зямля ўтрымоўвае на сваёй паверхні такі цяжар? Аказваецца, што маса ўсіх людзей у параўнанні з масай Зямлі гэта драбінка пяску ці маку. Вучоныя аблічылі, што Зямля важыць столькі, што каб запісаць яе вагу ў кілаграмах, трэба 6 умножыць на 10 (6х10) і яшчэ да гэтага ліку дапісаць 24 нулі —

60.000.000.000.000.000.000.000.000 кг. Гэтакі лік не мае ўжо нават сваёй назвы. Яго коратка запісваюць так $6 \times 10^{24}$ кг. Тады супольная вага ўсіх людзей на зямлі ёсць меншая ад вагі самай зямлі на $3 \times 10^{13}$ (30 більёнаў раз).

Але Зямля ў сваю чаргу ў сусветным маштабе з'яўляецца так мікрамаленькай пылінкай, што цяжка яе нават убачыць. Вось у ЗША на гары Палямар знаходзіцца найбольшы ў свеце тэлескоп. Пры яго дапамозе ўдалося сфатаграфаваць галактыку (цэлая сістэма зорак і планет), да якой з Зямлі аж $5 \times 10^{22}$ кіламетраў. (Трэба 5 умножыць на 10 і дадаць яшчэ 22 нулі). Святло, каб даляцець з гэтай галактыкі да Зямлі, патрабуе аж $2 \times 10^{17}$ секунд, а трэба ведаць, што святло ляціць з хуткасцю 300 000 кіламетраў у секунду.

Аказваецца, што чалавека акружаюць так бязмежныя з'явы і прасторы, што цяжка іх сабе ўявіць. І толькі дзякуючы хуткаму развіццю навукі чалавек можа ўсё глыбей і глыбей зазіраць у сусвет, мерыць яго і падлічваць.

**Нейтрына**

# ДОКТАР, Я ХАЧУ ПРАСВЯТЛІЦЦА

Сярод шэрагу пацыентаў, якія прыходзяць да лекара ў амбулаторыю, большая частка прыходзіць з болем у баку. Боль гэты асабліва выступае ў асенне-зімовы перыяд і звязаны з «прастудай» ці іншай хваробай сэрца або мышцаў. Большасць пацыентаў, як з горада так і з вёскі, патрабуюць рэнтгенаўскага прасвятлення грудной клеткі, лічачы, што без гэтага прасвятлення не можа абысціся лекар. Лекар адмаўляе скіравання на прасвятленне, але даволі часта паддаецца просьбам надакучлівых пацыентаў, і такі пацыент, асабліва з працяглаю хваробаю, некалькі разоў, часам і больш, прасвятляецца праменнямі Х (рэнтгенаўскімі) на працягу года, не разумеючы, якую крыўду сабе робіць. Большасць хвароб, якія характарызуюцца болем у баку, гэта не хвароба лёгкіх, а мышцаў, нерваў ці іншых частак цела, і рэнтгенаўскае прасвятленне нічога не выкажа. Наадварот, частае прасвятленне шкодзіць для людскога арганізма. Вядома, што такая сур'ёзная хвароба, як белакроўе (бялачка), пашыраецца ўсё больш. У сярэднім на 20.000 жыхараў памірае ў год 1 асоба. Заўважана, што ў жыхараў Хірашымы частасць выступання гэтай хваробы з'яўляецца большай, чым у іншых раёнах свету, і залежыць гэта ад паглынання людскім арганізмам дозы іёнізуючых праменняў. З гэтых прац вынікае, што частае прасвятленне рэнтгенаўскімі праменнямі пабольшвае шанц для выступлення гэтай хваробы. Сімптомы гэтай хваробы не паяўляюцца адразу, толькі ссумаванне гэтых дозаў можа выклікаць сімптомы гэтай хваробы, найчасцей паміж 30 і 50 годам жыцця.

Адсюль вывад: наша хвароба, якая праяўляецца «уколам у баку», вельмі часта магчыма да выкрыцця ў час лекарскага агляду.

яхх

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Заходненямецкі рай мужчынам

Прастытуцыя ў краіне гаспадарчага цуду — гэта таксама прафесія.

Вольныя жанчыны з аўтамашынамі бяруць за ноч ад 50 да 80 марак. Таней цэняць сябе тыя, якія не паслугоўваюцца аўтамашынамі.

Ва ўсёй Заходняй Нямеччыне гандлёвыя фірмы плануюць, так званыя, кошты на прыём гасцей. Фірма наймае прыгожую дзяўчыну, дае ёй добра мэбляваную кавалерку ў цэнтры горада, часамі фундуе аўтамашыну. Апрача таго плаціць. Плаціць найчасцей ад кожнага вечара праведзенага з гасцямі фірмы. Такое мілае дзявочае таварыства мае, пераважна, ад 18 да 25 год. Ведае дзве — тры замежныя мовы. Патрапіць весці размову пра фільмы, спорт, нават крыху аб літаратуры і наогул аб мастацтве. Як падлічылі заходненямецкія журналісты, у адным толькі горадзе Франкфурт на Майне штодзень адбываецца каля дзесяці тысяч такіх гандлёвых вечароў у мілым таварыстве.

У Гамбургу ёсць славутая вуліца Рэепербан. Мясцовыя жыхары горада рэдка паяўляюцца на гэтай вуліцы. Але заходзяць сюды ўсе прыезджыя, не толькі матросы, якіх караблі прыпыняюцца ў гэтым вялікім порце свету. Вечарам Рэепербан зіхаціць мільёнамі неонавых агнёў, якія вабяць у начныя рэстараны. Паліцэйскія правілы дазваляюць вербаваць кліентаў толькі ля ўваходу ў такі рэстаран, але мала хто пераймаецца паліцэйскімі забаронамі. Бяжыць такі вярбоўшчык на другі бок вуліцы і шэпча табе на вуха:

— Пане дырэктар, у нас усё гатовае. Толькі адна, што мае шаснаццаць год, як малалетняя, носіць хвартушок...

Вярбоўшчыкі бягуць адзін за другім: не адчапіцца ад іх. Кожны з іх шэпча штораз больш дзікія голыя сенсацыі.

Вуліца вузкая, змрочныя вокны ў сутарэннях. У вокнах-вітрынах сядзяць менш ці больш раздзетыя жанчыны, прыгожыя і брыдкія. Старыя і вельмі маладыя. Адны чытаюць газеты, другія робяць на дратах. Вуліцаю валіць натоўп падпітых або зусім п'яных мужчын. Некаторыя стукаюць у шыбы, а тады адчыняецца люфцік і пачынаецца размова:

— Колькі?..

— Трыццаць.

— Здурэла?

— Знайшоўся купец на здохлыя рыбы.

— Спусці...

— Не табе, ты касавокі...

— Што, я касавокі!..

Непадалёку ад Рэепербан праходзіць іншая гамбургская вуліца Вялікая Свабода (назва як на іронію). Пры вуліцы Вялікай Свабоды знойдзеш даслоўна ўсё-ўсенька, што называецца платным каханнем. Тут дзейнічаюць вялікія гангі, змовы. Тут кожная дзяўчына дае вялікі даход. У стрып-цісавых рэстаранах плацяць ім па 30 да 200 марак за вечар. Перад усім тут заходненямецкая паліцыя, яе дэтэктывы шукаюць герояў вялікіх нападаў, рабункаў на банкі, крамы, гандлёвыя магазіны.

(а-ся)

# Каб не заблудзіцца

Адна з аколіц горада Бергена ў Нарвегіі забудавана невялікімі домікамі на адну сям'ю. Дамы тут падобны адзін на другі, як блізняты. Таму маленькім дзецям, якія жывуць у гэтым раёне, не так ужо і лёгка трапіць са школы дамоў. Экстраны бацькоўскі сход знайшоў выйсце: вырашана на кожных дзвярах вывесіць фатаграфію маці, якая жыве тут.

# Пасажыры на вагу

Спецыялісты Азербайджанскага палітэхнічнага інстытута прыдумалі арыгінальны спосаб на тое, каб палічыць колькасць пасажыраў у аўтобусах гарадскога транспарта. Яны апрацавалі спецыяльную вагу, якую спалучылі з рэсорамі аўтамашыны. Яна абсталявана аўтаматычным самапісцам. Кожны чалавек, які толькі стане нагой на ступень аўтобуса, аўтаматычна рэеструе сябе на вазе. Гэтага кантралёра ашукаць цяжка. Прасачыўшы ленту з запіссю адразу можна ведаць, колькі асоб уваходзіла і выходзіла з аўтобуса. Кандуктарам таксама цяжка камбінаваць, бо адразу відаць, колькі білетаў яны не прадалі.

(а-вр)






У панядзелак каля поўдня паручык Вага працаваў у сваім кабінеце. У гэты час у дзверы пастукалі.

— Заходзьце!

— Грамадзянін паручык! — далажыў салдат, падаючы пакет, — тэрміновая шыфраграма.

— Дзякуй, можаце ісці! — адказаў Вага.

Калі кур'ер пайшоў, Вага распячатаў канверт, дастаў дакумент, хутка прабег густа напісаны тэкст.

— Аднак, — прамармытаў ён ціхенька і падняў тэлефонную трубку.

— Прывядзіце Вольскага, — загадаў ён. — Так, зараз. Так, ужо можна без «бранзалета». Скажыце яму, што ён свабодны.

Вольскі, задыхаючыся, убег у кабінет.

— Ёсць ужо адказ? — нецярпліва спытаў ён.

Вага сцвярджальна кіўнуў галавой і падаў яму шыфраграму.

— Вось бачыце, — пераможна сказаў Вольскі. — Трэба было мяне адразу вызваліць.

— Ці ёсць у вас, грамадзянін палкоўнік, якія-небудзь прапановы? — спытаў паручык Вага.

— Безумоўна, — адказаў Вольскі. — Я ўсё грунтоўна прадумаў, седзячы пад арыштам. — Перш за ўсё я павінен здабыць доказы варожай дзейнасці агента. Мне патрэбны доказы і яшчэ раз доказы. Таму што я амаль з поўнай упэўненасцю ведаю, хто з'яўляецца агентам.

— Як жа здабыць доказы? — з яўнай цікавасцю спытаў паручык.

— Думаю, што трэба сачыць за абодвума падазронымі. Агент павінен жа з кім-небудзь падтрымліваць сувязь звонку, — адказаў Вольскі.

— Гм... А калі агент ужо выканаў сваё заданне і парваў ужо ўсялякія сувязі, — з'едліва спытаў Вага. — Такая магчымасць зусім праўдападобная.

— Бадай, ён яшчэ не паспеў, — адказаў Вольскі. — У нас многа спосабаў, каб яго абясшкодзіць.

Паручык Вага кіўнуў галавой.

— Зразумела, ніколі не трэба губляць надзеі, — сказаў ён загадкава. — Уласна кажучы, палавіну работы мы ўжо зрабілі.

Вольскі здзіўлена паглядзеў на паручыка.

— Што вы маеце на ўвазе?

— А так, — усміхнуўся Вага. — Палавіну работы мы ўжо зрабілі. І добрай работы, — дадаў ён.

— Нічога не разумею, — Вольскі зморшчыў лоб. — Гаварыце больш зразумела.

— Зараз, — сказаў Вага і падняў трубку. — Зараз жа прывядзіце да мяне семнаццатага, — загадаў ён. — Толькі глядзіце ва ўсе вочы! — перасцярог ён.

Хутка да дома пад'ехала аўтамашына. Пачуўся стук у дзверы.

— Заходзьце, — кінуў Вага. Вольскі ўскочыў з месца. Тое, што ён убачыў, пераўзыходзіла яго чаканні. У суправаджэнні двух узброеных салдат з наручнікамі ў кабінет увайшоў... падпаручык Качмарэк.

— Можаце ісці, — сказаў Вага салдатам.

Вольскі паглядзеў на паручыка Вагу здзіўленым дапытлівым позіркам.

— Перад намі знаходзіцца обершпіён і здраднік! — строга аб'явіў Вага.

Качмарэк падняў галаву і з нянавісцю паглядзеў на Вагу.

— Што? Обершпіён, здраднік? На якой падставе вы абвінавачваеце мяне ў шпіянажы? Па якому праву вы мяне тут трымаеце? Гэта бяспраўе, парушэнне закона! Я буду скардзіцца! — крыкнуў ён усхваляваным голасам, указваючы галавой на скаваныя рукі.

— Супакойцеся! — запатрабаваў паручык. — Вы гэта пазнаеце? — ён выняў з шуфляды стала футарал з прыборамі для пісьма, загорнутымі ў цэлафан.

Качмарэк заплюшчыў вочы і з палёгкай уздыхнуў.

— Ах, вось аб чым ідзе гутарка! — усміхнуўся ён. — Доўга я думаў над тым, для чаго гэта служыць. Гэта не звычайны прыбор да пісьма. Я яго разглядаў з усіх бакоў, але не хацеў разбіраць. Гэта вельмі цікавы прыбор. Цяпер я не здзіўляюся, чаму вы мяне арыштавалі, — сказаў ён ужо спакойным голасам.

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### СХОД ГУРТКА БГКТ

25 студзеня гэтага года ў Альхоўцы (Гайнаўскі павет) у будынку тутэйшай пачатковай школы адбыўся сход мясцовага гуртка БГКТ, на які прыбыў прадстаўнік аддзела таварыства ў Гайнаўцы тав. Васіль Дзун.

Тав. Дзун выступіў з прамовай на тэму 25-й гадавіны заснавання ППР. Ён шырока расказаў усім аб заснаванні і дзейнасці ППР-у, а пасля аб дзейнасці КПЗБ і сялянска-работніцкай Грамады. Пасля вырашана было выбраць новае праўленне гуртка. І так, старшынёй выбрана Юрку Скепку, сакратаром — Тамару Раманчук, а скарбнікам — Валю Галабурду. У рады таварыства прынята трох новых членаў. Усе члены гуртка забавязаліся на пачатку года поўнасцю аплаціць членскія складчыны за 1967 год. Пастаноўлена таксама яшчэ больш пашырыць і ўатракцыйніць працу гуртка БГКТ у Альхоўцы.

**Ю.С.**
Альхоўка




ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Я маю 16 год і вучуся ў восьмым класе пачатковай школы. Пасля заканчэння школы хацела б паступіць на працу ў Фасты ў Беластоку. Дома ў мяне ёсць бацька і брат. Вучыцца далей не магу, бо гаспадарка слабая, няма адкуль узяць грошай, а бацька і брат любяць часта папіць. Калі прыдзе свята, дык цэлы дзень даглядаю толькі гаспадарку, а яны папіваюць. Збрыдла мне ўжо такое жыццё.

Парай, дарагое Сэрцайка, куды кінуцца, як уладзіць гэтую справу.

Ніна з Гайнаўшчыны

Дарагая Ніна!

Мы званілі ў Фасты, дзе нам адказалі, што каб паступіць на працу, трэба мець закончаных 18 год. Аднак Фасты арганізуюць т. зв. школы пшызаклада́вэ, дзе вучаць праз нейкі час прафесіі, а пасля сканчэння яе — ставяць на працу. У гэтым годзе будзе апошні ўжо набор. Аднак дакладна не падалі нам тэрміну набору. Мо ў красавіку, мо пазней, невядома. Аднак на такую школу могуць цябе прыняць, а пасля толькі далучыш пасведчанне аб сканчэнні пачатковай школы. Раю табе дзесьці на пачатку красавіка звярнуцца або да нас, або ў аддзел кадраў у Фастах. Аб наборы ў гэтую школу будзе аб'ява ў «Газеце Беластоцкай».

Жадаю поспехаў.
Сэрцайка

### НЕ ВЫКОНВАЕ АБАВЯЗКУ

Ужо мінула 5 год, як у вёсцы Белкі, Гайнаўскага павета, пабудавана прыгожая вясковая крама. Прадаўшчыцай цяпер з'яўляецца маладая дзяўчына з вёскі Белкі, Оля Пучко.

Яна не дбае пра тое, каб выканаць месячны план продажу. Крама больш замкнёная, чым адчынена. Прыходзячы пад дзверы, можна прачытаць картку: «Выехала ў ГС у Нарву», а яна сапраўды паехала ў Беласток, каб купіць сабе прыгожую сукенку. На другі дзень чытаеш «Выехала па тавар да крамы ў Трасцянку», а яна сапраўды дома накручвала косы. Оля Пучко сапраўды прадае ў краме на месяц толькі два тыдні, а рэшту дзён выязджае невядома куды.

Варта, каб аб бялоцкай краме сур'ёзна падумала праўленне ГС у Нарве і прыняло якія-небудзь меры.

У краме няма парадку, тавары ляжаць на голай падлозе, а пад іх падцякае вада. Людзям баляць галавы, як паўзіраюцца на такое марнаванне тавару, і тады самі перакладаюць іх, каб не размоклі ад падцёклай вады.

**Ярош**
Гайнаўскі павет

### ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ У ГАРАДЗІСКУ

Вёска Гарадзіска, Гайнаўскага павета, распаложана на ўскраіне Белавежскай пушчы. Да нядаўна вёска не мела электрычнасці. Ва ўсіх навакольных вёсках электрычнасць была праведзена раней. І вось у 1965 годзе было запланавана правесці электрычны ток. Восенню 1966 г. прыехалі брыгады электраманцёраў і дружна ўзяліся за працу. Вялікую дапамогу прынеслі сяляне Гарадзіска і хутараў Ласінкі, дзе таксама вяліся электрычныя работы. Сяляне добраахвотна капалі ямы пад слупы. Ад 5 лістапада да 10 снежня 1966 г. работы былі закончаны. Усе чакалі таго моманту, калі ў хатах загарацца электрычныя лямпачкі, і не трэба будзе сляпіць вачэй пры цьмянай газоўцы. І дачакаліся. 13 снежня быў радасным днём у жыцці сялян Гарадзіска і хутараў Ласінкі. Вечарам у хатах першы раз у гісторыі вёскі загарэліся лямпачкі, а на вуліцы ў Гарадзіску засвяціліся «яжэнёўкі». Жыхары вельмі давольны тым, што ўрэшце развіталіся з газоўкамі.

**А. К.**
Ласінка

### МАТАРОВЫЯ КУРСЫ

Штогод на Гайнаўшчыне прыбывае большая колькасць матацыклістаў. Калі пачнецца летні сезон, у кожнай амаль вёсцы паяўляюцца новыя матацыклы.

Але перш чым купіць матацыкл, трэба мець правы дарожнага руху. І вось менавіта таму, пераважна ў асенне-зімовы перыяд арганізуюцца на вёсках матаровыя курсы.

Гэтакі курс адбываўся не так даўно і ў Семяноўцы, у якім удзельнічала больш дваццаці асоб. Заняткі курса вёў Язэп Крынскі. Вынікам гэтага курса быў нядаўна праведзены экзамен, які амаль усе ўдзельнікі паспяхова здалі.

На весну таксама і яны стануцца ўласнікамі папулярнага ўжо на нашых дарогах матацыкла.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### УРАЧЫСТАСЦЬ ППР

28 студзеня г.г. у прэзідыуме ПРН у Бельску Падляшскім адбылася ўрачыстасць прысвечаная 25-цігоддзю ППР. Узялі ў ёй удзел старыя дзеячы ППР і працаўнікі рад нарадовых. Расказалі яны аб першых арганізацыях ППР і аб удзеле ППР у станаўленні народнай улады.

Анатоль Рышчук вельмі шырока ахарактарызаваў працу ППР у першых пасляваенных гадах у Бельскім павеце, да якога ўваходзілі таксама тэрыторыі сённяшняга Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў.

На заканчэнне ўрачыстасці былым членам ППР дэлегацыя ЗМС (Саюз сацыялістычнай моладзі) уручыла кветкі.

Тэкст і фота П. Зінкевіч



**Надзя Сміткоўская ўручае кветкі Уладзіміру Бастрыгіну.**

### ПАЖАРНІКІ КАНЮК

13.I.1967 г. у вёсцы Кожына выбух грозны пажар. Гарэла клуня Карпа Лук'янюка. Дуў тады моцны вецер, які хіліў полымя на іншыя клуні суседзяў і пагражаў хлявам, а таксама значнай частцы жылых дамоў у вёсцы. Ратунку не было ад каго чакаць, таму што па заснежаных палях ніякія машыны не маглі прабіцца з дапамогай. У снезе пад Піліпкамі застрагла машына пажарнай каманды з Бельска. Але тут прышла дапамога пажарнай каманды з вёскі Канюкі, якая адлеглая ў 5 км. З'явіліся яны досыць хутка і прыехалі праз замерзлую раку Нарву коньмі. Прыехала і прыбегла разам каля 30 чалавек, у тым ліку 16 пажарнікаў. Неўзабаве пачалося вялікае і цяжкае змаганне са стыхіяй. Пажарнікі сканцэнтравалі сваю абарону на суседнюю клуню гр. Уладзіміра Гадомскага, якая была ў вялікай небяспецы, бо стаяла непадалёк гарэўшай клуні. Загудзела мотапомпа і палілася вада на сцяну клуні, якая ўжо пачынала загарацца. У клуні якраз ляжала вельмі многа саломы. Было пастаноўлена вынесці ўсю салому. Пажарнікі і прыехаўшыя сяляне з Канюк кідаліся проста ў агонь і выцягвалі адтуль снапы ўжо нават загараючайся саломы. Неўзабаве стыхія апаноўвалася, і пажар стаў паменшвацца, а потым быў пагашаны. Жыхары вёскі Кожына не маглі аддзякавацца за такую вялікую дапамогу вёсцы Канюкі. Жыхары Кожына далі сухую вопратку пажарнікам, таму што былі яны мокрыя да апошняй ніткі. Кожынцы выслалі ў Павятовую камэнду пажарнай каманды ліст, у якім выказалі ўдзячнасць пажарнікам з Канюкоў. Павятовая камэнда ў Бельску рашыла адзначыць 16 пажарнікаў з Канюк адзнакамі.

Некалькі слоў аб пажарнай камандзе ў Канюках. Была яна арганізавана ў 1955 годзе і налічвала 17 пажарнікаў. Камендантам яе стаў вядомы народны артыст-скульптар Уладзімар Навумюк. У 1956 годзе ў чэрвені яны атрымалі пажарніцкія прылады і мотапомпу. Але тут паўстала новая праблема. Няма месца для гэтых прыладаў. Дзеля гэтага пажарнікі пастанавілі купіць са сваіх складчын цэменту, нарабіць пустакаў і пабудаваць рамізу, а нават, калі можна было б, дык і святліцу. Так і зрабілі. Летам 1966 г. яны нарабілі пустакаў. Было б пажаданым, каб нейкая ўстанова прышла ім з дапамогай у гэтай справе.

**Міхась Матвеюк**
Канюкі

### ЖАНОЧЫ ГУРТОК

Гурток вясковых гаспадынь у Чыжах арганізаваўся ў пачатку 1966 г. Старшынёй гуртка з'яўляецца Марыя Ігнатовіч. Гурток дабіўся значных поспехаў у сваёй дзейнасці. Вясною мінулага года быў арганізаваны курс пячэння і варэння. Даў ён вельмі многа для вясковых гаспадынь. Стравы цяпер ужо жанчыны робяць дужа смачнейшымі. Дзякуючы добрай арганізацыі гурток наладзіў танцавальную вечарыну, у якой узяла ўдзел моладзь вёскі.

**Янка Грамадзкі**
Чыжы

# КІНО

Праграма
на 21—26.II.1967 г.

#### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Jadą goście, jadą" (polski), 21—22; „Wzgórze" (angl.), 23—24; „Gdzie jest trzeci król" (polski), 25—26.

**Кляшчэлі**
„Nieletni świadek" (angl.), 21—22; „Strzelby Apaczów" (USA), 23—24; „Barwy walki" (polski), 25—26.

**Дубіны**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Elektra" (duński), 25—26.

**Нарва**
„Urocza gospodyni" (USA), „Bandyci z Orgosolo" (włoski). 22—26.

**Нараўка**
„Sklep przy głównej ulicy" (czeski), „Samson" (polski), 22—26.

**Чыжы**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Zdradzona ziemia" (węgierski), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Pan Marszałek i ja" (NRF), „Rodzaj miłości" (angl.), 22—26.

#### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Pożegnania" (polski), „Dzielnica szczęścia" (rumuński), 22—26.

**Орля**
„Pieczone gołąbki" (polski), „Rękopis znaleziony w Saragossie" (po'ski), 22—26.

**Райск**
„Wierność" (radz.), „Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 22—26.

#### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
Towarzysze podróży" (radz.), „Zerwany most" polski), 21—24.

**Міхалова**
„Cyrk jedzie" (USA), 21—22, „Męski piknik" (jugosł.), 23—24. „Ktokolwiek wie" (polski), 25-26.

#### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wehikuł czasu" (USA), 21—22; „Następcy tronów" (włoski), 23—24; „Gdzie jest trzeci król" (polski), 25—26.

**Мілейчыцы**
„Przygody Wernera Holta" (NRD), 21—22; „Wyrok" (polski), 23—24; „Śmierć Belli" (franc.), 25—26.

#### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przemytnik z Piemontu" (franc.), 21—22; „Winnetou" I s. (jugosł.) 23—24; „Winnetou" II s. (jugosł.), 25—26.

**Шудзялава**
„Człowiek z fotografii" (bułg.) „Romans z nieznajomym" (USA), 22—26.

**Сідра**
„Długość pocałunku 90" (czeski), 21—22; „Między linami ringu" (USA), 23—24; „Ubranie prawie nowe" (polski), 25—26.

**Сухаволя**
„Mój stary" (polski), „Trema" (USA), 22—26.

#### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Obok prawdy" (polski), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 25—26.

---

**— Адкуль гэта ў вас? — спытаў Вага, углядаючыся ў твар шпіка.**

**Качмарэк пацяснуў плячыма.**

**— Мне яго ніхто не даваў. Знайшоў. Проста знайшоў, — упарта сказаў ён.**

**На твары паручыка Вагі адбілася з цяжкасцю стрымліваемае абурэнне.**

**— Няпраўда! — усклікнуў ён. — Нахабная хлусня! Дзе вы знайшлі гэтыя прыборы?**

**— Учора пасля абеду я накіраваўся прымаць дзяжурства. Прыборы ляжалі непадалёку ад уваходу ў памяшканне штаба дывізіі. Відаць, згубіў хтосьці з афіцэраў...**

**— Ах так? Чаму ж вы адразу не паспрабавалі знайсці гаспадара? Вы хацелі прысвоіць для прыватнага карыстання? — спытаў Вага з іроніяй.**

**— Ці ж гэта радыёперадатчык? — здзівіўся Качмарэк. — Дальбог, не ведаў я гэтага. А пра знаходку я хацеў далажыць пасля здачы дзяжурства. Я ж не мог спазніцца, — з запалам апраўдваўся ён.**

**Раптоўна Вольскі, які маўчаў да гэтага, сарваўся з крэсла і падышоў блізка да паручыка Вагі.**

**— Што гэта за камедыя? — спытаў ён з абурэннем. — Ваша падазронасць зусім беспадстаўная. Адных вы абвінавачваеце ў шпіянажы, мяне прывезлі са шпіталя як сведку, а хто яго ведае, магчыма яшчэ да мяне прычэпіцеся? — сказаў ён хутка і злосна.**

**Вольскі спрабаваў якім-небудзь чынам прымусіць Вагу спыніць допыт.**

**Вага яшчэ больш расхваляваўся:**

**— Што гэта значыць? — спытаў ён. — Я яшчэ не сказаў свайго апошняга слова. Я вам дакажу! — і тут жа падняў трубку тэлефона.**

**— Што вы хочаце рабіць? — тонам, які не абяцаў нічога добрага, спытаў Вольскі.**

**— Я не абавязаны вам тлумачыць. Прынясіце матэрыялы і апаратуру, — распарадзіўся Вага па тэлефоне.**

**Вольскі сеў у крэсла і панурыў галаву. Трэба было хутка знайсці разумны вывад са склаўшагася становішча. Ясна, што сваімі паспешлівымі дзеяннямі Вага ўсё сапсаваў. Цяпер Качмарэку нічога не ўдасца даказаць. Хіба толькі ў Вагі ёсць нейкія асаблівыя доказы, каб сыграць з Качмарэкам у адкрытую.**

**(Працяг будзе)**

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.944 Błtk M-3



 

## Камасацыя і шаткаўніца

На дварэ люты марозам патрэсквае, а мужыкі ў млiне пасядалі на мяшках і па-вясеннему пра грамадскую камасацыю шаткуюць.

— Дзедаўская церасналосіца ўжо горла пераела, — сказаў, хухаючы ў кулакі, Касперовіч з Саколя. — Рэскі, што нават нельга балёнам праехаць. А тут яшчэ ёсць мужыкі, што з новых хутараў не рады. Бо, маўляў, не па-нашаму вышла.

— Каб я ведаў, што абдарашь мяне такою каменіцаю, то ніколі не згадзіўся б на хутар, хлопчыкі, — зачырыкаў Верабей з Патокі і скрыгануў нейк павоўчаму зубамі.

У дапамогу яму пасняшыў Кананчук.

— А мой вырабляны на культуру агарод, на якім стаіць мая хата, прызналі і аддалі суседу, а мне прыдзялілі суседаў, цэлы ў карчах, — праспяваў ён з дрыготкаю ў голасе. — Адным словам, нявыкарчаванае багно. Вось якая, браткі, культура. І зноў бяры, чалавеча, сакеру і пачынай вырабляць яе ад самага пачатку. А хто будзе збіраць гатовае сена і скаліць зубы з мае працы.

— Э, у вас то яшчэ бяда напалам, хлопчыкі, бо вы хоць жывеце на месцы, — умяшаўся Мікалай Клімюк з Гвознай і пачаў выводзіць. — Значыцца, жыву я ў вёсцы Гвозна, а ў Патоцы меў 33 рэскі. Былі яны такія даўжэзныя, што перасякалі ўсе палеткі. Цяжкая была праца, але чалавек прывык. А цяпер, як зрабілі камасацыю, далі мне 3 хутары. Хутар ад хутара аддалены да 3 кіламетраў. А з хаты да найбліжэйшага будзе з сем, а то яшчэ і з добрым гакам. І зноў прывыкай, чалавеча. Хадзіў я за геадэтамі і прасіў: — Дайце мне зямлю пры гвознянскай граніцы. А ім або планы на хаду пабляталіся, або ў мазгах закруціла, далі мне зямельку каля самых Каўпакоў. Як прыйдзе вясна, то хоць ты верталётам гной у поле цягай, бо балёнам не навозішся такую далеч.

— Трэба было падаваць скаргу ў павет, — параіў сакольскі солтыс.

— А думаеце не падаваў? — працягваў Клімюк. — У павеце паабдураў я ўсім галавы. Нічога не памагло. Адаслалі мяне ў Ваяводскі аддзел землярбоства. А там параілі мне вельмі проста:

— Як бліжэй з Каўпакоў, то перабірайся туды і будзеш мець бліжка.

— А я ж, людкове, не цыган. У мяне хата на мураваным фундаменці стаіць. І ў міністэрства пісаў. Але ім з такой далечыні і вышыні добра не відна. Напісалі мне, што зрабілі мне вялікую дабрату. Шчэ й падкрэслілі, што меў я 33 рэскі, а цяпер маю толькі 3 кавалкі і што я павінен цешыцца. А што ж гэта за ўцеха! Пакуль заеду да найбліжэйшага хутара, то конь новыя падковы стопча.

— Ну, чаго пасядалі, як вароны на дождж?! —закрычаў мельнік. — Засыпайце чыя чарга, а то коўш пусты скрыгатаць пачынае.

**Цёта Мальвіна**

# НІЎКА

### З ЖЫЦЦЯ ПЕРШАБЫТНАГА ЧАЛАВЕКА




— Ты чаго так спяшаешся?
— А ў мяне тэрміновая.

### СЛОВА ВЕЦЕР

— «Слова — вецер» — кажа старая прымаўка.

— Гм... Калі б гэта было праўдай, то мая баба вырцела б усе ветракі на свеце!

### У МІРАВОГА

**Суддзя:** Ваша імя?
**Сведка:** Чыё, маё?
**Суддзя:** Ну, але, тваё.
**Сведка:** Тодар Хрэн.
**Суддзя:** Дзе нарадзіўся?
**Сведка:** Хто, я?
**Суддзя:** Ды, вядома ж, ты! Я ж гавару з табой адным!
**Сведка:** У вёсцы Трыбушкі.
**Суддзя:** Колькі табе гадоў?
**Сведка:** Каму, мне?
**Суддзя** (злосна): Не, мне!
**Сведка:** Я думаю, што вам гэтак, на вока, гадоў сорак — сорак пяць будзе, пане суддзя.

### ЗУМЫ ЯСЬБЫ І АПАЛОНІКА

**Лозунгі пашмараваныя маслам хутка таюць і псуюцца.**

✲

**Памятайце, разам з прагрэсам культуры ўзрастае крывая хамства.**

✲

**За эксперыменты навука таксама павінна несці адказнасць.**

✲

**Хто шукае сваркі, знойдзе яе без цяжкасці. Але не кожны мае ахвоту сварыцца.**

✲

**Той, хто прайграе ў карты, заўсёды шкадуе страчанага часу.**

### ДОБРЫ НЮХ

— Вось дзіва! Конь хацеў укусіць мяне за галаву!

— Мае добры нюх: пачуў, мусіць, што ў цябе ў галаве сена.

### СЕЛЯНІН РАССУДЗІЎ

Сустракаюцца два паны, едучы паркамі коней. Дарога была завеяна, дык паны не хочуць уступаць адзін аднаму. Стаяць, спрачаюцца. Панская кроў гарачая, дык яны ўжо за стрэльбы хапаюцца.

Праходзіў каля іх селянін, затрымаўся ды слухае.

— Вось скажы, Даніла, — пытаецца ў яго адзін пан, — хто каму павінен дарогу ўступіць?

— Вядома ж, адказвае Даніла, — што заўсёды лепей дурню саступіць.

— Эх ты, дурань! — крычыць адзін пан, зварочваючы ў цалік.

— Ты сто разоў горшы дурань! — крычыць другі пан, таксама збочваючы.

### ПАДЧАС АБЕДУ

**Жонка:** Бачыш, якая ты свіння! Сабе ўзяў вялікую рыбіну, а мне меншую пакінуў.

**Муж:** А ты як зрабіла б?

**Жонка:** Я?! Пэўна ж, сабе ўзяла б меншую...

**Муж:** Ну, то чаго ты крычыш, я ж табе і пакінуў меншую.

Рацыяналізацыя






Пра Тузіка і Мурзіка



— А каляску навошта ў госці?
— А на чым я цябе дахаты дастаўлю?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Леакадзіі Харкевіч з Храбастоўкі, і Мікалая Сухадолы са Слабодкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем польскую песню п.з.

## SZCZĘŚCIE




I.

Wiem, że chcesz, abym była najszczęśliwsza,
gwiazdy byś chciał mi z nieba dać.
Dobrze wiem, że ty dla mnie zrobisz wszystko,
by szczęście to zechciało trwać.
Szczęściem mym są najdroższe twoje oczy,
dobrze wiem czym są dla mnie usta twe.
Szczęściem mym są codzienne twe powroty,
gdy na twój widok cała drżę.
Szczęście swe odnajduję w twym uśmiechu,
w dłoniach twych kiedy obejmują mnie.
Szczęście też w każdym twoim jest oddechu
nawet gdy śpisz, ja kocham cię.

II.

Kto z was wie, ile szczęście miewa odmian
lub ile barw na tęczy lśni?
Mało kto szczęście swe spotka co dnia,
przeważnie o nim tylko śni.
Szczęście, to słońce witające ranek,
gwarny dzień czy gwiazdami lśniąca noc.
Szczęściem są ptaki głośno rozśpiewane
twój najukochańszy głos.
Szczęściem też może być i niepogoda,
głośny wiatr i tłukący w szyby deszcz.
Co mi tam, kiedy wiem, że ty mnie kochasz
i że ja ciebie kocham też.

# КУРЁЗЫ

### Палонны заяц

Два гады назад бразілец Педра прабраўся зайцам на англійскі грузавы карабель «Окбэнк». Увесь гэты час каманда карабля спрабавала пазбавіцца ад няпрошанага госця. Але дарэмна. У Педра няма дакументаў, і ні ў адной краіне яго не бяруць. Яму нават не дазваляюць выходзіць на бераг. Напэўна, ён вымушаны будзе да канца свайго жыцця плаваць на «Окбэнку».



### «Каштоўная» люлька

На адным з аукцыёнаў у Лондане, які быў арганізаван у дабрачынных мэтах, знаходзілася люлька прэм'ер-міністра Гарольда Вільсана. На этыкетцы значылася: «Люлька прэм'ер-міністра. У добрым стане. Сляды ад зубоў з'явіліся ў час апошніх выбараў».

### Бізнес на паветры

Не ўсім спартсменам і аматарам давядзецца трапіць у спартыўную «Мекку свету» — Мексіку, краіну чарговых Алімпійскіх гульняў. Але кожны жадаючы здолее за 3 песо ўдыхнуць паветра Мехіка, запакаванае ў кансервавыя бляшанкі нейкім кемлівым прадпрыемцам.




**Не ўсім можна гаварыць каралю тое, што гаворыць яму блазан.**